

# ДЗВІНСКІ ЎЗГОРАК

*Кроч на свой родны, дзвінскі ўзгорак, каб глядзець у будучую сінь*

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №19 (124)
СНЕЖАНЬ 2020 ГОДА

КРЫМІНАЛЬНЫ ПЕРАСЛЕД

## У ТУРМУ ЗА ПАДСЕЧКУ

**Віцябляніну Алегу Яфрэменку прысудзілі 4 з паловай гады калоніі за падсечку міліцыянту.**

9 снежня суд Першамайскага раёну Віцебску завяршыў разгляд крымінальнай справы ў дачыненні да 39-гадовага віцябляніна Алега Яфрэменкі. Суд прызнаў яго вінаватым у злачынстве паводле артыкулу 364 КК («Гвалт або пагроза ўжывання гвалту ў дачыненні супрацоўніка ўнутраных спраў»).

Суддзя Наталля Караблiна прысудзіла Алега Яфрэменку да пазбаўлення волі тэрмінам на чатыры з паловай гады з адбываннем пакарання ў папраўчай калоніі агульнага рэжыму. Час знаходжання пад вартай ад 16 верасня залічаны ў час адбывання пакарання.

Таксама суд задаволіў пазоў пацярпелага супрацоўніка МУС, які патрабаваў грашовай кампенсацыі маральнай шкоды ў памеры 1000 рублёў.

Гэта трэці па ліку працэс па крымінальных справах паводле артыкулаў 364 КК і 366 КК ( ужыванне гвалту да супрацоўнікаў МУС і службовых асобаў) у дачыненні да ўдзельнікаў вулічных шэсцяў у Віцебску. Прысуд вынесены Яфрэменку суддзёй Караблінай на сёння самы жорсткі.

У апошнім слове абвінавачаны яшчэ раз выбачаўся перад пацярпелым, які пасля падсечкі, зробленай Яфрэменкам падчас сутыкнення пратэстоўцаў з сілавікамі 13 верасня, упаў і падрапаў далоні. Папрасіў Яфрэменка прабачэння і ў сваёй жонкі, якая засталася адна з малым сынам.

«Неадэкватна суровы вырак можна патлумачыць толькі адсутнасцю ў адказных за прысуд усялякіх агульначалавечых і прававых нормаў, адсутнасцю ўсялякага здаровага сэнсу. Пацярпелы міліцыянт – малады чалавек без грамадзянскай пазіцыі. Калі выносіўся прысуд і бацьку разлучалі з сынам на чатыры з паловай гады – на яговых вуснах была ўхмылка. На жаль, такі ў нас тыповы вобраз сучаснага супрацоўніка МУС», – гэтак пракаментаваў прысуд сябар Алега Яфрэменкі, які прысутнічаў на апошнім паседжанні.

«Так, чатыры з паловай гады – гэта многа. А цяпер скажыце, калі заўтра гэта ўлада скончыцца, колькі яму сядзець застанецца? Роўна столькі, колькі патрэбна для афармлення неабходных дакументаў для перагляду справы. Пры новай уладзе гэтыя прысуды будуць перагледжаныя ў найкарацейшыя тэрміны. Калі мы хочам скараціць гэтыя чатыры з паловай і тэрміны іншых зняволеных, мы мусім зрабіць усё, што ад нас залежыць законнымі прававымі метадамі. Мая філасофія такая», – выказаўся пасля абвяшчэння прысуду праваабаронца Павел Левінаў.

**Якаў Дрозд**

ПЕРАСЛЕД

## ДВА З ПАЛОВАЙ ГАДЫ КАЛОНІІ

**Віцеблянін атрымаў рэальны тэрмін за абарону жанчыны.**

У судзе Кастрычніцкага раёну Віцебску 3 снежня агучылі прысуд у дачыненні 33-гадовага індывідуальнага прадпрымальніка Аляксандра Кірыленкі. Яго вінавацілі ва ўчыненні гвалту да супрацоўніка МУС (арт. 364 КК) падчас вулічнага шэсця 6 верасня. Суддзя Іна Грабоўская прызнала мужчыну вінаватым і пастанавіла пакараць пазбаўленнем волі на два з паловай гады.

Інцыдэнт, які інкрымінавалі Аляксандру Кірыленку, адбыўся 6 верасня падчас вулічнага шэсця на вуліцы Праўды ў Віцебску. Кірыленка хацеў перадухіліць гвалт у дачыненні пажылой жанчыны з боку міліцыянта і адштурхнуў яго. Пацярпелы – супрацоўнік Першамайскага РАУС Віцебску старшы прапаршчык Юрый Валейчанка, сцвярджаў на судзе, што праз атрыманае ўздзеянне "згубіў прасторавую арыентацыю" і "перажыў фізічныя пакуты". Аляксандр Кірыленка быў жорстка затрыманы на месцы сутычкі.

Як высветлілася, пацярпелы міліцыянт Юрый Валейчанка прасіў суд аб маральнай кампенсацыі за перанесеныя пакуты – 1500 рублёў. Суд задаволіў патрабаванне. Сям'я абвінавачанага выплаціла гэтую суму Валейчанку яшчэ да абвяшчэння прысуду. Пацярпелы, у сваю чаргу, напісаў сваякам распіску, што не мае больш прэтэнзій і што не настойвае на тым, каб у дачыненні абвінавачанага суд прымяняў пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі. Але суд вырашыў па-свойму.

Аляксандр Кірыленка прызнаны вінаватым «ва ўчыненні гвалту да супрацоўніка органаў унутраных спраў з мэтай перашкоджання яго законнай дзейнасці і прымусу да змены характару гэтай дзейнасці».

Суддзя Іна Грабоўская пастанавіла пакараць мужчыну пазбаўленнем волі на тэрмін 2 гады і 6 месяцаў з адбываннем пакарання ў калоніі агульнага рэжыму.

Днём раней пракурорка Крысціна Мацвеева прасіла пакараць Аляксандра Кірыленку трыма гадамі зняволення.

Як мяркуе віцебскі праваабаронца Павел Левінаў, суд павінен быў апраўдаць мужчыну, у горшым выпадку - прызначыць пакаранне, звязанае з абмежаваннем волі, але ні ў якім выпадку - не з яе пазбаўленнем.

**Зміцер Міраш.**
**"Віцебская Вясна"**

*Чытайце сайт Віцебскага раёна:*
*http://vicebskreg.by*

ПАЛІТЫЧНЫ ПЕРАСЛЕД

## СТРАЙКОЎЦА ЗВАЛЬНЯЮЦЬ

**Працоўнага «Віцебскіх дываноў», які абвесціў страйк з патрабаваннем сыходу Лукашэнкі, звальняюць.**

Аператара ААТ «Віцебскія дываны» Вячаслава Целіцына, які далучыўся да агульнарэспубліканскай забастоўкі 1 снежня, звальняюць за прагулы. Загад аб звальненні Вячаслава Целіцына 7 снежня падпісала выконваючая абавязкі гендырэктара ААТ «Віцебскія дываны» Алена Шчукіна. «Аператар агрэгата фарміравання прадзільнага цэха Вячаслаў Целіцын адсутнічаў на працы 3 і 4 снежня, апраўдальных дакументаў не прадставіў", - гаворыцца ў загадзе аб звальненні. Згодна з загадам, Целицын будзе звольнены з 22 снежня. Раней, 3 снежня, у афіцыйным лісце ад гендырэктара прадпрыемства Алены Чабатаровай, Вячаславу Целицыну тлумачылася, што яго адмова ад выканання працоўных абавязкаў па палітычных матывах супярэчыць дзеючаму працоўнаму заканадаўству, бо «адсутнічае і калектыўная працоўная спрэчка, і законнае рашэнне аб правядзенні забастоўкі». Стала вядома, што Целіцына шукае міліцыя. Па словах мужчыны, 8 снежня да яго па месцы жыхарства прыехаў супрацоўнік міліцыі і паведаміў жонцы, што шукае Вячаслава ў сувязі з яго ўдзелам у несанкцыянаваных масавых мерапрыемствах. Нагадаем, аператар ААТ «Віцебскія дываны» Вячаслаў Целіцын 1 снежня абвясціў пра страйк - з шэрагам палітычных патрабаванняў. Адпаведную заяву мужчына падаў гендырэктару фабрыкі. «Галоўная прычына, чаму я адважыўся на такі крок, - гвалт над беларусамі пасля выбараў. Я і сам з ім сутыкнуўся: 11 жніўня я выйшаў у горад з бел-чырвона-белай стужкай на руцэ, мяне затрымалі, кінулі ў бус, а там ужо амапаўцы здзекаваліся як хацелі », - распавядаў Вячаслаў Целіцын. Працоўны высунуў тры патрабаванні: сыход Аляксандра Лукашэнкі з пасады прэзідэнта, спыненне гвалту да людзей з боку сілавікоў, вызваленне ўсіх палітвязняў і спыненне пераследу беларусаў па палітычных матывах. Вячаслаў Целіцын стаў першым віцебскім рабочым, якія далучыліся да агульнанацыянальнай забастоўкі.

**Ян Сведка**

ЗЛАЧЫНСТВЫ

## ВІЦЯБЛЯНІНА АРЫШТАВАЛІ

**Расійская паліцыя арыштавала віцебчука Ўладзімера Мунякіна, вядомага скандальнымі пражэктамі.Цяпер яго вінавацяць і ў закліках да гвалту супраць міліцыі.**

Віцебскі бізнэсовец, якога падазраюць у махлярстве, быў затрыманы расійскай паліцыяй у Варонежскай вобласці. Міліцыя распаўсюдзіла паведамленне аб тым, што на Мунякіна напісалі заявы 20 чалавек, у якіх ён нібыта ашуканскім спосабам выманіў не менш за 100 000 рублёў. Раней бізнесменам сцвярджаў, што ён не хаваецца, а з'ехаў на малую радзіму з-за сітуацыі з коронавирусом. Цяпер ГУБАЗіК паведаміў, што спадар Мунякін па запыце беларускіх уладаў быў затрыманы расійскай паліцыяй у горадзе Лiскi Варонежскай вобласці. Цяпер, праўда, гаворыцца, што ён змог завалодаць толькі 60 000 рублёў 20 пацярпелых. Аднак, сама колькасць пацярпелых, на думку міліцыі, можа дасягнуць 150 чалавек толькі ў Беларусі. Акрамя таго, Уладзіміра Мунякина падазраюць яшчэ і ў закліках да гвалту ў дачыненні да супрацоўнікаў міліцыі, і цяпер яго пазіцыянуюць ня як ілжэбізнесмена, а як «радыкальна палітызаванага блогера». У дачыненні да Мунякіна распачалі яшчэ адну крымінальную справу - аб распальванні сацыяльнай варожасці. Спадар Мунякін у пэўнай ступені вядомы віцяблянам. Ён некалькі разоў анансаваў розныя амбіцыйныя праекты, аднак, усе яны не атрымалі развіцця. У 2012 годзе быў заяўлены праект «Інтэрнэт 2» для замены існуючай глабальнай сеткі, а таксама «Лакатар-Невігатар» - прыбор для выяўлення аўтамабіляў; а ў 2013 ён агучыў ідэю стварэння на месцы парку Тысячагоддзя кінастудыі з 76 элітнымі катэджамі для жылля, паркам з фантанамі і двума здымачнымі павільёнамі, майстэрнямі і адміністрацыйным корпусам - «Еўрапейскі Холлівуд». І гэта далёка не ўсе пражэкты Уладзіміра Мунякіна. Расійская паліцыя затрымала віцебчука 2 снежня. Зараз беларускія ўлады будуць дамагацца яго экстрадыцыі. Хоць Уладзімір Мунякин і нарадзіўся ў Варонежскай вобласці, расійскага грамадзянства ў яго няма.

**Якаў Дрозд**

ПЕРАСЬЛЕД

# СПРАВУ СПЫНІЛІ

**Тры паседжанні спатрэбілася суду Кастрычніцкага раёну Віцебску, каб разабрацца ў акалічнасцях адміністрацыйнай справы ў дачыненні да віцяблянкі Таццяны Філімонавай. Яе вінавацілі ў парушэнні заканадаўства аб масавых мерапрыемствах.**

Таццяну Філімонаву абвінавачвалі ў актыўным удзеле ў несанкцыянаваным шэсці 25 кастрычніка (ч.3 арт. 23.34 КаАП). На адзнятым у той дзень аператыўнікамі відэа сярод удзельнікаў акцыі супрацоўнікі Першамайскага РАУС Уладзімір Казлоўскі і Вадзім Склімянок апазналі спадарыню Таццяну. Сама яна на прадэманстраваных у судзе кадрах сябе не пазнала.

У якасці сведкі выступаў маёр міліцыі Склімянок. Ён заявіў, што апазнаў Філімонаву нават на раздрукаваных чорна-белых скрыншотах. Патлумачыў, што ідэнтыфікаваў жанчыну па колеры валасоў, вопратцы, абрысам фігуры, форме твару ды разрэзу вачэй.

У сваю чаргу Таццяна Філімонава задала Склімянку некалькі пытанняў, датычных адметнасцяў яе фігуры, твару і вачэй. На большасць з іх адказу абвінавачаная не атрымала.

Тацццяна Філімонава нагадала суду выпадак, калі «выдатная зрокавая памяць» маёра Склімянка ўжо аднойчы падводзіла яго. На відэа і скрыншотах ён пераблытаў блогерку Алену Янушкоўскую з праваабаронцай Ірынай Траццяковай. Справа дайшла да суду, Траццякову аштрафавалі на 20 базавых велічынь, але абласны суд справу адмяніў. Пасля гэтага суддзя запатрабаваў выклікаць у суд Уладзіміра Казлоўскага, які складаў пратакол.

На трэцяе паседжанне ні Казлоўскі, ні Склімянок не з'явіліся. Уладзіміра Казлоўскага апыталі праз скайп. Той паведаміў, што разам з маёрам Склімянком апазнаў на відэа Філімонаву. У тым, што гэта менавіта яна, Казлоўскі не сумняецца. Разам з тым, як і Склімянок, ён не назваў аніводнай адметнасці аблічча Філімонавай. Між тым, такія адметнасці маюцца. І, як адзначыла спадарыня Тацццяна, іх заўважае кожны, хто яе ведае.

Суддзя Уладзімір Царыкаў, выслухаўшы аргументы бакоў, выказаў пазіцыю суду. У прыватнасці, ён адзначыў, што, згодна з патрабаваннямі працэсуальнага закону, вінаватасць асобы, у дачыненні да якой вядзецца адміністрацыйны працэс, мусіць быць устаноўленая з матэрыялаў справы. А яны, па-першае, абвяргаюць актыўны ўдзел у вулічным шэсці асобы, апазнанай супрацоўнікамі МУС як Філімонава. Па-другое, на відэа суд налічыў ня менш за пяць асобаў, падобных па апісанні да Філімонавай – апранутых у чорную куртку з капюшонам і джынсы, з чорнай антыбактэрыяльнай маскай на твары.

З улікам гэтага ў суду ўзніклі абгрунтаваныя сумненні ў тым, што на скрыншотах і відэа насамрэч фігуруе Тацццяна Філімонава.

Паколькі высновы суду не могуць базавацца на здагадках і з улікам адсутнасці ў матэрыялах справы непасрэдных доказаў удзелу Філімонавай 25 кастрычніка ў масавым мерапрыемстве, суд палічыў яе віну ва ўчыненні адміністрацыйнага правапарушэння не даказанай. Сыходзячы з гэтага, суддзя Уладзімір Царыкаў пастанавіў справу аб адміністрацыйным правапарушэнні паводле ч.3 арт. 23.34 КаАП у дачыненні да Філімонавай спыніць – у сувязі з недаказанасцю яе вінаватасці.

**Ян Сведка**

ЗЛАЧЫНСТВЫ

# ЗАКРЫТЫ СУД

**Двух сілавікоў судзяць у Віцебску закрытым судом. Справа звязана з перавышэннем улады і гандлем наркотыкамі.**

За зачыненымі дзвярыма ў Віцебскім абласным судзе разглядаецца крымінальная справа былых сілавікоў Анатоля Дзямідава і Дзмітрыя Савянка. Пра гэта паведамляюць «Народныя навіны Віцебска». Іх абвінавачваюць у перавышэнні ўлады, падбухторванні да гандлю наркотыкамі і шэрагу іншых злачынстваў. І Дзямідаў, і Савянок абвінавачваюцца ў здзяйсненні, падрыхтоўцы або падбухторванні да здзяйснення злачынстваў, прадугледжаных адразу пяццю артыкуламі Крымінальнага кодэкса. Так, абодвум абавязваюць перавышэнне ўлады і службовых паўнамоцтваў (арт. 426 КК), падбухторванне да распаўсюджвання наркотыкаў (арт. 328 КК), Савянка вінавацяць і ў падрыхтоўцы да распаўсюду наркотыкаў. Дзямідава яшчэ абвінавачваюць у заведама непраўдзівых паказаньнях, злучаных з абвінавачваннем у цяжкага ці асабліва цяжкага злачынства або са штучным стварэннем доказаў абвінавачвання, учыненых з карыслівых меркаванняў (арт. 401 КК), і падрыхтоўцы да падобнага ж злачынства, Савянка - толькі ў падрыхтоўцы. У дадатак да гэтага Дзямідаў і Савянок абвінавачваюцца ў перашкодзе яўцы сведкі, пацярпелага альбо дачы імі паказанняў (арт. 403 КК). Прозвішча, імя і імя па бацьку аднаго з фігурантаў цалкам супадаюць з дадзенымі маёра міліцыі Дзмітрыя Савянка, які займаў пасаду начальніка аддзялення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі крымінальнай міліцыі Аршанскага РАУС. Апошні раз ён згадваецца ў СМІ ў пачатку 2019 года. Справу Анатоля Дзямідава і Дзмітрыя Савянка разглядаецца ў закрытым судовым пасяджэнні. Слуханні па крымінальнай справе пачаліся 30 лістапада.

**Ян Сведка**

# ШТРАФ ЗА АБРАЗУ СУСЕДА-МІЛІЦЫЯНТА

**3 снежня суд Першамайскага раёну Віцебску разгледзеў адміністрацыйную справу ў дачыненні да выхавацелькі Ганны Пашкевіч. За наўмысную абразу супрацоўніка МУС Мікалая Марозава (арт. 9.3 КаАП) суд аштрафаваў жанчыну на 5 базавых велічыняў. Рашэнне аб пакаранні прымаў суддзя Міхаіл Юрчанка.**

Паводле пратаколу, 12 лістапада Ганна Пашкевіч наўмысна абразіла міліцыянта Мікалая Марозава – прынізіла ягоную годнасць як асобы. Пашкевіч са зместам пратаколу не пагадзілася.

Канфлікт адбыўся каля 23.45 на лесвічнай пляцоўцы дому на вул. Вастрацова. Пашкевіч і Марозаў – суседзі: жанчына жыве на 5-м паверсе, міліцыянт – на 3-м.

Па версіі Марозава, ў Пашкевічаў ад 21:30 да 23:30 грала гучная музыка, у тым ліку кампазіцыя Віктара Цоя «Перамен!». Марозаў сцвярджаў, што ні ён, ні ягоная сям'я не маглі заснуць. Мужчына падняўся на 5-ы паверх з патрабаваннем зрабіць музыку цішэй. Пашкевіч нібыта не пагадзілася, прапанавала Марозаву сысці, пачала адпіхваць яго рукамі, казала: «Мусар, сабака, не перашкаджай нам адпачываць». Потым, як сцвярджае міліцыянт, выйшаў сын Марозавай Канстанцін і ў грубай форме пачаў гучна крычаць на Марозава, каб той пакінуў ягоную маці ў спакоі.

Канфлікт працягваўся некалькі хвілінаў. Пасля прыходу жонкі Марозава ўсе разышліся па сваіх кватэрах. Марозаў таксама заявіў на судзе, што, калі сыходзіў, пачуў пагрозы забойствам на свой адрас і адрас сваёй сям'і.

Паводле ж Ганны Пашкевіч, сітуацыя выглядае інакш. У той дзень да Ганны Пашкевіч прыйшоў сын з нявесткай і ўнучкай і дачка з сяброўкай. Дарослыя сабраліся на кухні, унучка і пяцёра прыёмных дзяцей Ганны гулялі ў зале. На погляд Пашкевічаў, музыка была нягучнай, і 23:00 яшчэ не было. Пасля званку ў дзверы Ганна выйшла на пляцоўку, патлумачыла Марозаву, што дзеці хутка сыдуць, музыку адключаць. Ніякімі крыўднымі словамі міліцыянта не называла. Можа, яго і адштурхоўвала, але толькі праз тое, што Марозаў паводзіў сябе агрэсіўна і не хацеў сыходзіць. Спадарыня Ганна запэўнівала, што нікому з суседзяў музыка не перашкаджала, апроч Марозава. З такімі патрабаваннямі ён прыходзіў да Пашкевічаў ужо не ўпершыню. Жанчына выказала меркаванне, што Марозаў мае непрыязнае стаўленне да яе сям'і.

Ганна Пашкевіч хадайнічала, каб да справы быў далучаны раздрукаваны скрыншот тэлеграм-перапіскі нявесткі і дачкі, на якім пазначаны дакладны час – 23:37. Нявестка адправіла паведамленне ўжо пасля таго, як яны з мужам вярнуліся дадому і ўжо кладліся спаць. Суддзя Міхаіл Юрчанка хадайніцтва адхіліў.

У справе таксама апыталі суседзяў. Суседка Ганны Пашкевіч з пятага паверху заявіла, што ў той вечар яна вярнулася з дзяжурства, хутка заснула, гучнай музыкі не чула. Пра канфлікт даведалася ад Ганны.

На судзе высветлілася: суседка Марозава з трэцяга паверху таксама была сведкай падзеяў. Яна распавяла, што ў той вечар не спала. Сказала, што ў 23:05 (гадзіннік быў перад вачыма) пачула гучны жаночы голас: «Коля, мусар». У 23:20 выйшла з кватэры, бо была сварка, паднялася на пралёт чацвёртага паверху. Пабачыла ўдзельнікаў канфлікту і зразумела, што Мікалай падымаўся да Пашкевічаў, каб спыніць музыку.

Апыталі ў якасці сведкаў жонку Марозава і ягонага калегу, які жыве на чацвёртым паверсе. Сваімі сведчаннямі яны падтрымалі версію Марозава.

Перад вынясеннем прысуду Міхаіл Юрчанка паведаміў, што па заяве Марозава следчы камітэт правёў праверку адносна пагрозы забойствам яму і ягонай сям'і і 1 снежня вынес пастанову пра спыненне крымінальнай справы ў адносінах да Ганны і Канстанціна Пашкевічаў.

Вывучыўшы абставіны адміністрацыйнай справы ў дачыненні да Ганны Пашкевіч, суддзя Міхаіл Юрчанка прызнаў яе вінаватай і аштрафаваў на 5 базавых велічынь (135 рублёў).

Аналагічную адміністрацыйную справу суд разгледзіць у панядзелак адносна сына Ганны Канстанціна Пашкевіча.

**Ян Сведка**

ЗА ІНШАДУМСТВА

# ЗАЯВЛЕНИЕ ЕПИСКОПА ВИТЕБСКОГО

**Заявление сделано в связи с арестом на 10 суток настоятеля костела в Россонах Вячеслава Барка.**

Глава католической епархии считает, что дело в отношении священника должны пересмотреть с учетом мнения независимых экспертов, а его самого незамедлительно освободить.

Напомним, 3 декабря судья суда Россонского района Рада Доминич наказала 10 сутками ареста настоятеля местного костела Вячеслава Барка, обвинив его в пропаганде нацистской символики или атрибутики по ст. 17.10 КоАП. Причиной для суда стала публикация на личной странице священника в соцсети плаката Владимира Цеслера «Стоп лукашизм».

Вячеслав Барок пояснил суду, что выступает «против фашизма, коммунизма, любого тоталитарного режима» и что разместил плакат Владимира Цеслера как выражение «протеста против насилия в стране».

— Тем не менее складывается впечатление, что его объяснения не были приняты судом во внимание, в результате чего ксендзу Вячеславу Барку было вынесено обвинительное решение, с которым священник не согласился и с которым не могу согласиться также и я, потому что ксендза Вячеслава фактически обвинили в том, против чего он сам выступал, — отмечает епископ Витебский Олег Буткевич.

Епископ вместе с тем не исключает, что факт размещения священником на его личной странице в социальной сети плаката политического содержания мог быть по-разному воспринят разными людьми. В связи с этим глава епархии просит прощения у тех, у кого «подобное содержание вызвало негативную реакцию».

Ранее в соцсетях свое обращение в защиту Вячеслава Барка разместил и Владимир Цеслер:

— Тот факт, что публикация моей антифашистской работы на странице священнослужителя Вячеслава Барка в сети Интернет расценена как демонстрация нацистской символики, вызывает недоумение, противоречит моему художественному замыслу при работе над произведением. Для каждого, у кого есть глаза, разум и сердце, очевидна антифашистская позиция костела.

**Tut.by**

АБ'ЯВА

*Каб атрымліваць кожны нумар газеты "Дзвінскі Ўзгорак" паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты "Дзвінскі Ўзгорак".*

*Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# У ПОШУКАХ БЕЛАРУСКІХ ФАШЫСТАЎ

**Слова «фашызм», калі меркаваць па тым, як часта яго ўжываюць у газеце «СБ. Беларусь сегодня», перажывае ў дзяржаўнай публіцыстыцы другое нараджэнне.**




Крыху статыстыкі. Калі за няпоўныя дваццаць гадоў з моманту яго першага згадвання на сайце газеты (17.07.2001) было апублікавана 620 артыкулаў, якія зляшчаюць гэта слова, то за студзень-лістапад 2020 года — 186 (30 %).

Справа, аднак, не ў колькасным росце. Кардынальна змяніўся сэнс, які «залатыя пёры» сталі ўкладваць у слова «фашызм». У нулявыя гады слова было звыклым для постсавецкага чалавека. Так, у першым артыкуле гаворка ішла пра дабрачынную аптэку «для былых вязняў фашызму».

Але што знаходзіць пошукавік сёння? «Марш против фашизма» — под бчб» (21.11.2020). «Дичь: марш против фашизма под нацистскими флагами — в Минске...» (22.11.2020). «Эта мантра от наших либералов-демократов нам уже хорошо известна: коммунизм = фашизм…» (04.11.2020).

І нарэшце, артыкул, што зняшчае выказванне галоўнага персанажа маёй «Азбукі паліталогіі». Не магу адмовіць сабе ў задавальненні, каб не працытаваць ключавы абзац: «Что касается фашизма, ко мне это никак не приклеишь, потому что я интернациональный человек. Для меня что украинец, что русский, что поляк, что белорус, литовец, немец — для меня все равно. Вы же видите мою политику. Я всегда гордился тем, что у нас нет драк и противоречий между разными национальностями. Я не националист… А фашизм — это высшая форма национализма. Фашистом может быть ярый националист — это не ко мне» (20.11.2020).

Веды, атрыманыя на гістарычным факультэце Магілёўскага педагагічнага інстытута ў гады брэжнеўскага застою, не схаваеш. А ў тыя слаўныя гады, па якіх сёння многія льюць кракадзілавы слёзы, уладальнікі дыпломаў «выкладчык гісторыі і грамадазнаўства» фашызм ад нацызму (нацыянал-сацыялізму) не адрознівалі. І гэта не было вынікам нейкай недапрацоўкі. Усё адначасова і прасцей, і складаней, бо без падмены паняццяў у савецкіх ідэолагаў паўсталі б праблемы пры тлумачэнні пераваг сацыялізму над усімі іншымі грамадска-эканамічнымі фармацыямі…

**Што застаецца?**

Каб рухацца далей, я прывяду яшчэ адну цытату з манаграфіі: «Фашызм — зусім не тупіковая галіна развіцця сучаснага грамадства. У ХХ стагоддзі ён быў адной з вядучых палітычных дактрын сусветна-гістарычнага значэння. І цалкам верагодна, што той жа фашызм, хоць, хутчэй за ўсё, пад іншым імем, зможа адыграць важкую ролю і ў ХХІ стагоддзі. Фашызм — гэта адметная рыса сучаснасці».

Прашу звярнуць увагу на апошні сказ цытаты. Фашызм не ўчора нарадзіўся, і Нюрнбергскі працэс рысу пад ім не падвёў. Фашызм не варта зводзіць да палітычных практык ашалелых дучэ і фюрэра. «Фашызм, — тлумачыць гісторык Ілля Герасімаў, — гэта пра правал мадэрнасці ў масавым грамадстве з-за слабасці палітычных інстытутаў і здрады інтэлектуалаў».

Як тут не прыгадаць байку «Ліса і вінаград». Яе гераіня не здолела справіцца з выклікам сучаснасці — і адмовіла выкліку ў праве на існаванне. Вось так і цэлыя народы часам вяртаюцца ў архаіку, бо не паспяваюць за дынамічнымі пераменамі.

Многія еўрапейскія народы сутыкнуліся з гэтай праблемай яшчэ ў першай палове ХХ стагоддзя (Італія, Германія, Аўстрыя, Іспанія, Румынія, Балгарыя і г. д.). Расійская імперыя — з-за слабага развіцця трэцяга саслоўя (буржуазіі) — знайшла свой адказ на выклік мадэрнасці: бальшавізм.

Беларуская мадэль — гэта яшчэ адна спроба ўпісацца ў сучаснасць шляхам запазычанняў заходніх тэхналогій і закупкі абсталявання, але нічога не змяняць пры гэтым у сацыякультурнай сферы.

Асноўным вынікам мадэрнізацыі дзяржаўных прадпрыемстваў, што была абвешчаная ў 2013 годзе (гл. табліцу), сталі страты, і ад яе даваліся адмовіцца. Што засталося? Стандартны для сусветных лузераў набор развагаў: аддаnасць традыцыйным каштоўнасцям, дэградацыя Захаду, зайздрасць суседзяў з-за нашай стабільнасці, імпартазамяшчэнне і іншыя нікому ў свеце не цікавыя рэчы.

Усё вышэйпералічанае і яшчэ многае з таго, што засталося за дужкамі, пацвярджае правал мадэрнасці. Фашызацыя ўнутранай палітыкі — натуральная рэакцыя на чарговую спробу калі і не перагнаць прамыслова развітыя краіны, то хаця б скараціць адставанне ад іх.

Для тых жа, у каго слова, якое прыйшло да нас з італьянскай мовы, выклікае негатыўныя асацыяцыі, можна знайсці іншыя словы. Але справа не ў словах. Пры дапамозе паўтору правільных слоў нават смаку халвы адчуць у роце не атрымліваецца.

**Пра тры віды сукна**

Развіццё азначае дыферэнцыяцыю. Але чым больш інтэнсіўна з калісьці адзінай (традыцыйнай) культуры вылучаюцца лакальныя субкультуры (напрыклад моладзевыя), тым складаней знаходзіць агульны інтарэс, без якога з асобных грамадзян немагчыма фарміраваць грамадства.

…Поспехі беларускага Парка высокіх тэхналогій дазвалялі спадзявацца на магчымасць такога пераходу. У 2019 годзе ПВТ экспартаваў паслуг на $ 2,2 мільярда (+$0,8 млрд да 2018 года). Ён практычна на 100 % забяспечыў рост экспарту паслуг па краіне. Але які будзе вынік гэтага года і года наступнага, калі «эфект 9 жніўня» адаб'ецца ў поўнай меры? Пажывём — пабачым.

Але поспехі ў эканоміцы, насуперак уяўленням марксістаў савецкага і постсавецкага разліву, — толькі следства ад поспехаў у сацыяльнай і палітычнай сферах. Постіндустрыяльную эканоміку без постіндустрыяльнага грамадства не пабудаваць. Ахвочым абагнаць Еўропу па якасці аўтамабіляў неабходна спачатку абагнаць яе па якасці судовай сістэмы.

У сувязі з гэтым прывяду фрагмент з «Адэскіх апавяданняў» Ісаака Бабеля, які днямі нагадаў слухачам «Эхо Москвы» палітолаг Уладзімір Пастухоў: «Ведаеце, у чым розніца паміж брытанскім сукном, польскім сукном і маскоўскім сукном? Брытанскае сукно — гэта сапраўднае сукно. Польскае сукно — гэта лайно ў кветачкі. А маскоўскае сукно — гэта проста лайно».

Гэтую цытату палітолаг прывёў для ілюстрацыі якасці беларускай выбарчай сістэмы. Зрэшты, нічога новага чытачам НЧ ён не паведаміў.

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

ПЕРАСЛЕД

# СВЯТАР: «… МЯНЕ ТРЭБА ЗЬЛІКВІДАВАЦЬ ФІЗЫЧНА»

**Каталіцкаму сьвятару з Расонаў (Віцебская вобласьць) Вячаславу Барку прысудзілі 10 сутак арышту. Ксяндза Барка судзілі за тое, што на сваёй старонцы ў Фэйсбуку ён разьмясьціў працу мастака Ўладзімера Цэсьлера «Стоп лукашызм». У сувязі з тым, што на малюнку прысутнічае выява нацысцкай свастыкі, публікацыя малюнка сьвятаром расцэненая як дэманстрацыя нацысцкай сымболікі. За сьвятара ўжо заступіўся і сам мастак Цэсьлер, які назваў свой малюнак антыфашысцкай працай і абураны такой трактоўкай праваахоўнікаў і перасьледам сьвятара.**

У інтэрв'ю святар сказаў:" Я разьмясьціў гэты твор тады, калі кожная клетка майго арганізму адчула тое насільле, якое адбываецца ў краіне. Як хрысьціянін я не магу адвярнуцца і сказаць: я ня бачу. Людзі, я гэта бачу. Бачу неправамоцнае насільле, і я супраць аўтарытарнага рэжыму ў Беларусі, які перарастае ў таталітарны рэжым.

Рымскі папа кажа, што таталітарны рэжым можа пераменіцца ў тэрарызм. І сёньня мы гэта бачым. У Беларусі на дзяржаўным узроўні адбываецца тэрарызм. Я не магу маўчаць, калі зло трыюмфуе.

Мне ня важна, хто будзе кіраваць краінай, ня важна, як будуць зваць прэзыдэнта ці як будзе называцца партыя. Мне важна, каб наша краіна кіравалася перадусім законам і каб правы чалавека захоўваліся.

Само тое, што мой адміністратыўны працэс праводзіць опэрупаўнаважаны крымінальнага вышуку, гэта вельмі дзіўна. Ён сам прызнаўся, што такое адбываецца ўпершыню.

Падчас працэсу ён тройчы выходзіў раіца з кіраўніцтвам, як весьці адміністратыўны працэс. Разоў пяць ён тэлефанаваў начальству. Паводле мяне, гэты працэс палітызаваны.

Запарушэньнегэтагаартыкула мне могуць прысудзіць суткі або канфіскаваць прыладу, дзякуючы якой я нібыта прапагандаваў нацысцкую сымболіку.

Яшчэ да публікацыі мною малюнка Цэсьлера опэрупаўнаважаны крымінальнага вышуку Гаўрылаў асабіста апытваў маіх парафіянаў, да чаго я заклікаў, ці прапагандую я нешта.

У сваіх выступах я выступаю супраць фашызму, камунізму, супраць кожнага таталітарнага рэжыму. Бо я ксёндз, каталік, хрысьціянін, я кіруюся афіцыйным навучаньнем каталіцкага касьцёла.

Я падрыхтаваны да ўсяго, я разумею, у якой краіне жыву. У мяне няма даверу да інстытуту дзяржаўнай улады. Я маю давер да Бога. Спакаваную торбу на ўсялякі выпадак, калі б мяне забралі, я маю ўжо даўно.

Хрыстос казаў: «Мяне перасьледавалі, і вас перасьледаваць будуць». Мы, хрысьціяне, каталікі, ня можам баяцца перасьледу за праўду і веру ў Бога. Калі мы пакланяемся крыжу Хрыста ўкрыжаванага і ўваскрэслага, то мы не павінны баяцца прыняць гэты крыж на сябе.

Час перасьледу вернікаў — бласлаўлёны час. Гэта час ачышчэньня касьцёла. Дзякуючы гэтай крызіснай сытуацыі мы сёньня бачым, хто ёсьць хто ў хрысьціянскіх супольнасьцях.

Сябры і парафіяне раілі мне выехаць за мяжу, некаторыя плакалі, што так будзе лепш. Але чаму я павінен зьяжджаць? Я не парушаю законаў, у мяне няма кепскіх думак у сэрцы, я не хачу забіваць і помсьціць. Я проста хачу жыць у гэтай краіне па законе. Па законе Божым і законе людзкім. Я і ня выеду. Я застануся на гэтай зямлі, дзе жывуць мае вернікі. Я хачу, каб тут было вяршэнства закону.

Пакуль я жыву, немагчыма, каб спынілася маё прапаведаваньне. Патрэбная фізычная ліквідацыя. Але косьці забітага чалавека прамаўляюць яшчэ гучней, чым тады, калі чалавек быў жывы. Няма шанцаў, каб заткнуць рот прапаведніку.

Хутка Раство. Людзі, мы перажываем бласлаўлёны час. Час крызісу — гэта час чаканьня. Гасподзь прыходзіць у нашае жыцьцё і на наш сьвет. Беларусы, не губляйце надзеі. Верце ў тое, што закон будзе мець вяршэнства. Больш адвагі. Выходзьце са сваіх дамоў, месцаў працы, са свайго ўтульнага жыцьця, дзе вы прыстасаваліся да беззаконьня. Выходзьце насустрач Госпаду, правасудзьдзю, справядлівасьці і праўдзе. І тады будзе спакой у Беларусі, і мы будзем мець задавальненьне з таго, што маем."

*(скарочана)*

**https://svabod1.azureedge.net/a/30982192.html**

**Дзьмітры Гурневіч**

АЛІМПІЙСКІ РУХ

# ЗАБАРАНІЛІ ПРЫСУТНІЧАЦЬ НА АЛІМПІЙСКІХ ГУЛЬНЯХ

**Міжнародны алімпійскі камітэт (МАК) прыняў рашэньне часова адхіліць прадстаўнікоў Нацыянальнага алімпійскага камітэту (НАК) Беларусі ад удзелу ў падзеях МАК, уключаючы Алімпійскія гульні.**

Выканаўчы камітэт МАК вырашыў:

Выключыць абраных членаў Выканаўчага савета НАК Беларусі з усіх мерапрыемстваў МАК, уключаючы Алімпійскія гульні. Сюды ўваходзіць, у прыватнасьці, Аляксандар Лукашэнка ў якасьці прэзыдэнта НАК і законнага прадстаўніка НАК; Віктар Лукашэнка ў якасьці першага віцэ-прэзідэнта НАК і асобы, якая штодня адказвае за дзейнасьць НАК; Дзьмітры Баскаў у якасьці чальца Выканаўчага камітэту НАК і з улікам канкрэтных абвінавачаньняў, вылучаных супраць яго. З 13 чальцоў Выканаўчага камітэту НАК Беларусі гэтае выключэньне не датычыцца толькі Тацяны Драздоўскай.

Прыпыніць усе фінансавыя выплаты НАК Беларусі, за выключэньнем выплат, зьвязаных з падрыхтоўкай беларускіх спартоўцаў да Алімпійскіх гульняў у Токіё 2020 і зімовых Алімпійскіх гульнях у Пэкіне 2022. Усе алімпійскія стыпэндыі для беларускіх спартоўцаў цяпер будуць выплачвацца непасрэдна спартоўцам, а не праз НАК.

Папрасіць адпаведныя міжнародныя фэдэрацыі гарантаваць, каб усе беларускія спартоўцы, якія маюць права на ўдзел, маглі ўдзельнічаць у кваліфікацыйных мерапрыемствах да Алімпійскіх гульняў без палітычнай дыскрымінацыі.

Прыпыніць любыя перамовы з НАК Беларусі наконт правядзеньня будучых мерапрыемстваў МАК.

Папрасіць усіх удзельнікаў Алімпійскага руху паважаць гэтыя захады ў інтарэсах абароны правоў беларускіх спартоўцаў і рэпутацыі Алімпійскага руху.

«МАК прыйшоў да высновы, што цяперашняе кіраўніцтва НАК Беларусі не абараняе ад палітычнай дыскрымінацыі», — пракамэнтаваў рашэньне прэзыдэнт МАК Томас Бах.

Бах таксама сказаў, што Міжнародная федэрацыя хакею абмяркуе пытаньне пра ролю Беларусі ў найбліжэйшыя дні.

Латвія, якая меласа праводзіць чэмпіянат сьвету па хакеі 2021 году разам зь Беларусьсю, публічна дыстанцыявалася ад супрацоўніцтва з гэтай краінай пасля спрэчных выбараў. МФХ таксама «ініцыявала працэдуру» супраць беларускага чыноўніка, што ўваходзіць у яе кіруючы камітэт, сказаў Бах, якога цытуе агенцтва AP.

Рэакцыі МАК на палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі дамагаліся спартоўцы зь Беларускага Фонду спартовай салідарнасьці.

**«Радыё Свабода»**

“ФАНТАЗІІ”

# «ЛУКАШЕНКО ЗАГНАЛ НАС В ПЛЕН СВОИХ ФАНТАЗИЙ И ФОБИЙ»

**«Есть еще в Беларуси такие люди, которые считают, что без Лукашенко все развалится, — пишет Ярослав Романчук. — На просьбу конкретизировать свою точку зрения, что ВСЁ развалится, почему и как конкретно руководитель страны препятствует этому развалу, они отвечают либо молчанием, либо «так все же понятно умным людям».**

«Без Лукашенко все развалится» — типичный блеф и PR. На самом деле, это при Лукашенко все разваливается.

Авторитет государства и доверие к нему общества и мира обнулены.

Верховенство права и справедливость судебной власти разрушены.

Культура диалога, уважение разных точек зрения растоптаны.

Честность, справедливость в доступе на рынок, к финансам и ресурсам ликвидированы.

Отрицательный отбор кадров привел к опасной концентрации шлаков в органах управления государством и экономикой. ОМОНизация экономики идет полным ходом. В правящих органах власти людей, знающих, как правильно бить дубинкой и бросать шумовые гранаты больше, чем тех, кто знает, что такое инфляция или EBITDA.

Доверие к BYN-рублю так и не поднялось выше плинтуса.

Самые выгодные ниши на рынках поделены среди «своих» — для VIP-распорядителей и потребителей чужого.

Более 10 лет безуспешно идет борьба за «по-$500». Средней пенсии по $200 опять ждать, то ли до второго пришествия Христа, то ли до повышения пенсионного возраста до 70 лет.

Деиндустриализация набирает обороты. Закрываются заводы и фабрики. Шансы на IV промышленную революцию раздавлены большевицким угаром воспроизвести революционную политику Ленина и Сталина.

Село стареет, вымирает, мельчает. На нем греют руки аграрные бароны и многочисленные начальники исполкомов и национальных органов.

Пенсионная система зияет дырами. Система здравоохранения поругана, искажена идеологией, недофинансированием и советским разрушительным «бесплатно».

Белорусская культура, язык и история сохранились не благодаря, а вопреки первому советскому президенту Беларуси.

Спорт и тот разогнали, разобщили, изгнали, растоптали честь и достоинство тренеров и спортсменов…

При Лукашенко из страны бегут предприниматели, инвесторы, молодежь, творцы, честные и профессиональные рабочие. Из Беларуси при Лукашенко вымывается капитал, деньги, идеи и нематериальные активы. Из Беларуси при Лукашенко изгоняют ее честь, совесть и цвет нации, тех людей, которые годами работали на ее репутацию и славу.

Так что же значит фраза «без Лукашенко все развалится»? То же самое, что «без Сталина в Советском Союзе не было бы гуманизма». Или «без колхозов нас ждет голод». Или «белорусы настолько глупы и слепы, что без направляющей, руководящей руки начальника не смогут ни прокормить, ни обучить, ни обустроить свою жизнь».

Давно пришло время понять, что фраза «без Лукашенко все развалится», на самом деле, значит «при Лукашенко все разваливается». Ручное регулирование цен, экономика под кулаком видимой руки Левиафана, борьба с импортом, «закон не всегда применим», телефонное право, принуждение к труду за копейки, понукание и оскорбления несогласных, выпячивание и выгораживание своих из бизнеса и власти, стойкий большевизм, слепая вера в мистические заговоры и потусторонние силы, пренебрежение умными и честными – политик XX века советского разлива обладает прочным иммунитетом к новым знаниями, науке «экономика», состраданию и уважению людей. Он – анти-Ли-Кван-Ю и недоЛенин. Потерялся в своем прошлом. Загнал нас в плен своих фантазий и фобий. Беспросветно и беспробудно.

В Беларуси без Лукашенко, действительно, кое-что развалится. Закроется бюджетная кормушка для номенклатурно-силовых кланов. Развалится схематоз, который годами плели начальники и «красные директора» по вымыванию денег из заводов и фабрик. Будет ликвидирована ~10-тысячная вертикаль идеологов и пропагандистов. В прошлое уйдет порочная практика не платить по долгам и получать льготы, субсидии из бюджета. Мы забудет, что такое гиперинфляция и внезапная девальвация. Никто не будет гонять учеников и учителей, врачей и военных на спортивные праздники и имитацию народовластия.

Самое время попробовать, не так ли?»

**https://gazetaby.com**

“ОРГАНЫ”

# ПАЛКОЎНІК ЮСТЫЦЫІ ПРА НАСТРОІ Ў «ОРГАНАХ»

**«У пачатку выбарчай кампаніі тагачасны кіраўнік МУС Юры Караеў сустракаўся з супрацоўнікамі буйных аддзелаў унутраных спраў. Было сказана наступнае: „Вам можна ўсё. Не падвядзіце“. Нават у страшным сьне ня мог уявіць, што „ўсё“ — гэта літаральна ўсё».**

Палкоўнік юстыцыі, сьледчы ў асабліва важных справах аднаго зь аддзелаў Сьледчага камітэту Іван Агееў (імя і прозьвішча зьмененыя на яго просьбу) у размове са Свабодай расказаў, якія цяпер настроі ў сілавым блёку і чаму ніводзін праваахоўнік не пакараны за перавышэньне паўнамоцтваў.

**«Сьвярбяць рукі распачаць крымінальную справу за гвалт»**

«Ад самага пачатку працы ў сілавых структурах нам казалі: міліцыянт, сьледчы мусяць заставацца па-за палітыкай, — кажа кадравы сілавік. — Я згодны, але ў тым выпадку, калі выконваецца асноўны прынцып: кожны роўны перад законам. Толькі пры такім раскладзе супрацоўнік можа сказаць: я па-за палітыкай, бо на варце закону. Ня важна, хто перада мной: злодзей, які нешта скраў; ці высокі чыноўнік, ці сілавік. На жаль, гэты прынцып, закладзены і ў Канстытуцыі, пачаў парушацца, калі прынялі новы Крымінальна-працэсуальны кодэкс. Зьявіліся касты „недатыкальных“. Маецца на ўвазе асаблівы парадак завядзеньня крымінальных спраў адносна шэрагу асобаў — дэпутатаў, міністраў і г.д.».

Утым, што закон не для ўсіх аднолькавы, беларусы змаглі пераканацца падчас драматычных падзеяў адразу пасьля прэзыдэнцкіх выбараў. Тысячы адміністрацыйных і крымінальных справаў супраць удзельнікаў мірных акцый і ніводнай — за беспрэцэдэнтны гвалт, учыненыя калецтвы і нават забойствы мірных грамадзянаў сілавікамі.

«У любога супрацоўніка павінна быць павага да закону. Бяз гэтага ня можа выконваць свае абавязкі ні міліцыянт, ні сьледчы, ні пракурор, ні судзьдзя. Калі лічыш, што маеш права ў нейкіх выпадках парушыць, то гэта злачынства. Шмат сьледчых абураны дзеяньнямі праваахоўнікаў. Усе мае калегі сядзяць у тэлеграм-каналах, бачаць ролікі з разгонаў. І калі амапавец беспрычынна б'е нагой у твар, гэта перавышэньне паўнамоцтваў. У законе, у тым ліку, сказана: сілавік павінен імкнуцца прычыніць найменшы ўрон здароўю. Калі чалавек не супраціўляецца, навошта малаціць яго дубінкай?»

Дык чаму пакрываюцца злачынствы тых, у чые функцыі ўваходзяць зусім іншыя задачы — абарона грамадзянаў, а не дэманстрацыя гвалту?

«Працэсы не пачынаюцца толькі таму, што кіраўніцтва краіны цудоўна разумее: першая ж крымінальная справа супраць канкрэтнага супрацоўніка сілавых структураў стане пачаткам канца цяперашняй сыстэмы. Бо той, хто будзе далей удзельнічаць у разгонах, ужо задумаецца: „Наступным у судовым канвеяры магу стаць я“. Тым больш ёсьць праграмы распазнаваньня твараў, схавацца ад правасудзьдзя складана. Асабіста ў мяне вельмі сьвярбяць рукі пры наяўнасьці складу злачынства завесьці крымінальную справу па факце гвалту з боку байцоў АМАП ці іншых падразьдзяленьняў», — адзначае ён…

**«Выкарыстаньне зброі ў крайніх выпадках і толькі па нагах»**

Сьледчы Агееў ня верыць, што крымінальныя справы супраць вінаватых у гвалце пры цяперашнім рэжыме магчымыя ў прынцыпе. Паводле яговых зьвестак, праваахоўнікі атрымалі поўны карт-блянш на ўжываньне сілы.

«На пачатку выбарчай кампаніі ўжо былы кіраўнік МУС Юры Караеў і яговыя намесьнікі сустракаліся з супрацоўнікамі буйных аддзелаў унутраных спраў. Было сказана прыкладна наступнае: «Вам можна ўсё. Не падвядзіце». На той момант, калі я гэта пачуў, зразумеў крыху інакш: усё, але ў рамках закону, дзе абсалютна зразумела прапісанае ў тым ліку выкарыстаньне агнястрэльнай і траўматычнай зброі. У самых крайніх выпадках і толькі па нагах, каб прычыніць найменшую шкоду здароўю. А не прыцэльна ў галаву ці ў грудзі. Нават у страшным сьне ня мог уявіць, што будзе так, як мела месца ў жніўні і паўтараецца цяпер. Што «ўсё» — гэта ў літаральным сэнсе «ўсё».

Гарантыі беспакаранасьці для сілавікоў Свабодзе пацьвердзіў і адзін з былых супрацоўнікаў цэнтральнага апарату Генпракуратуры. Калі ў пачатку верасьня на пасаду кіраўніка ведамства быў прызначаны Андрэй Шved, ад яго імя быў падпісаны «праграмны дакумэнт», у якім прызнавалася правамернасьць гвалту і зьмяшчаўся пералік мераў для кожнага профільнага ведамства ў рэагаваньні на розныя формы пратэстаў.

Фактычна дакумэнт пазбавіў магчымасьці ініцыяваць пракурорскія праверкі кшталту той, што спрабавалі правесьці ў справе пабітых байкераў. Як вынік, у знак пратэсту пачалі звальняцца аўтарытэтныя супрацоўнікі пракуратуры. Дакумэнт носіць грыф сакрэтнасьці, кола доступу да яго моцна абмежаванае.

*(вельмі скарочана)*

**Больш тут: svabod1.azureedge.net/a/30987933**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сенненская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку 16.12.2020 у 17.10** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.